Гродна
№16 (451),
11 верасня 2016

# Слова Жыцця

www.slowo.grodnensis.by

ГАЗЕТА ГРОДЗЕНСКАЙ ДЫЯЦЭЗІІ







# "OPEN": адкрытыя на Бога і бліжняга





У канцы верасня Акадэмічнае душпастырства студэнтаў і працуючай моладзі "OPEN" адсвяткуе 10 гадоў свайго існавання. За гэты час сотні маладых людзей знайшлі ў супольнасці новых сяброў і нават сужэнцаў. З чаго ўсё пачыналася, і аб якіх дасягненнях душпастырства сёння хочацца ўспомніць?

● працяг на с. 4

## Каляндар падзей

**14 верасня**
Свята Узвышэння Святога Крыжа.
**15 верасня**
Успамін Маці Божай Балеснай.
**18 верасня**
Успамін св. Станіслава Косткі, заступніка дзяцей і моладзі.
**21 верасня**
Свята св. апостала Мацвея.
**23 верасня**
Успамін св. Айца Піо з П'етрэльчыны.

## Ружанцовыя інтэнцыі

**Верасень**
За бацькоў-хрысціян.
Аб прабуджэнні адказнасці маці і бацькі за рэлігійнае выхаванне дзяцей.
Аб стварэнні ў парафіях дыяцэзіі спрыяльных умоў для катэхізацыі дзяцей і моладзі.

## Праграмы каталіцкай рэдакцыі

**"Голас Евангелля"**
Разважанні над Божым словам. Выходзіць на Першым нацыянальным канале Беларускага радыё кожную нядзелю ў 8.00 у Гродне на 96,9 FM, у Свіслачы на 100.8 FM.

**Навіны з Ватыкана па-беларуску**
Радыёвяшчанне з Апостальскай Сталіцы. Штодзённа ў 22.10 на 98,1 FM – у Гродне, Ваўкавыску, Шчучыне, Лідзе, Мастах і побач з гэтымі гарадамі;
на 99,2 FM – у Брэсце і побач з ім; у 20.00 на кароткіх хвалях 6185 і 11715 кГц.;
у 20.00 і 6.20 на спадарожніку "Eutelsat Hotbird 13" на канале "Radio Vaticana Telepace".
Кожную нядзелю ў 8.55 на хвалях Першага нацыянальнага канала Беларускага радыё і на Канале "Культура" Беларускага радыё. У інтэрнэце на старонцы vatican.by.

## Інтэрнэт-апытанне (www.grodnensis.by)

*Ці лічыце Вы хабарніцтва (атрыманне або дачу хабару) маральным злом?*

- так
- не
- залежыць ад сітуацыі
- цяжка сказаць

выкажыся 

**"Няма нічога лепшага, чым бачыць жаданні, актыўнасць, захапленні і энергію моладзі". Папа Францішак**

## РАЗВАЖАННІ З БОЖЫМ СЛОВАМ

### XXIV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 15, 1–32**

Набліжаліся да Езуса ўсе мытнікі і грэшнікі, каб паслухаць Яго. А фарысеі і кніжнікі наракалі, кажучы: "Ён прымае грэшнікаў і есць з імі".

Езус расказаў фарысеям і кніжнікам наступную прыпавесць, кажучы: "У аднаго чалавека было два сыны. Малодшы з іх сказаў бацьку: «Ойча, дай належную мне частку маёмасці». І той падзяліў паміж імі маёмасць. Праз некалькі дзён малодшы сын забраў усё і ад'ехаў у далёкі край, і там растраціў сваю маёмасць, жывучы распусна. А калі ён аддаў усё, настаў вялікі голад у тым краі, і ён апынуўся ў нястачы. Тады пайшоў і наняўся да аднаго жыхара гэтага краю, а той паслаў яго на свае палі пасвіць свіней. Ён жадаў напоўніць жывот свой стручкамі, што елі свінні, але ніхто не даваў іх яму. Апамятаўшыся, ён сказаў: «Колькі наймітаў у бацькі майго маюць удосталь хлеба, а я гіну тут з голаду. Устану і пайду да бацькі майго, і скажу яму: ойча, я зграшыў супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам. Прымі мяне як аднаго з наймітаў тваіх». І ён ўстаў, і пайшоў да свайго бацькі. А калі быў яшчэ далёка, убачыў яго бацька ягоны, і зжаліўся, і, пабегшы, кінуўся яму на шыю, і пацалаваў яго. А сын сказаў яму: «Ойча, зграшыў я супраць неба і перад табою. Я ўжо не варты называцца тваім сынам». Бацька ж сказаў слугам сваім: «Прынясіце хутчэй найлепшую вопратку і апраніце яго, і дайце пярсцёнак на руку яго і сандалі на ногі. Прывядзіце адкормленае цяля і зарэжце. Будзем есці і весяліцца, бо гэты сын мой быў памерлы і ажыў, прапаў і знайшоўся»".

### ПАКАШТАВАЦЬ ЛЮБОЎ АЙЦА

Міласэрны айцец вучыць нас цярплівасці: нягледзячы на тое, што сын яго пакінуў, айцец не раззлаваўся, а цярпліва чакаў яго вяртання дадому. Вучыць нас любові: калі ўбачыў сына, то выбег яму насустрач, абняў і пацалаваў, не патрабуючы тлумачэнняў. Вучыць прабачэнню: прыняў свайго сына з вялікай пашанай і вярнуў яго папярэдняе месца ў доме. Вучыць мудрасці: калі сын вярнуўся дамоў, айцец не разважаў пра дрэннае мінулае, але цешыўся з яго прысутнасці.

Праз свае грахі мы неаднойчы выходзім з дома Нябеснага Айца для таго, каб пакаштаваць фальшывую свабоду. Часта праслаўляем Бога толькі вуснамі, у той час як нашыя сэрцы далёка ад Яго. Як марнатраўны сын, мы нярэдка пагарджаем тым, што Божае. Хочам свабоды і шчасця, а знаходзім смутак і расчараванне. Насамрэч, ніхто, акрамя Бога, не здольны наталіць голад нашага сэрца, бо менавіта Ён з'яўляецца самой Любоўю, Дабрынёй і Міласэрнасцю. І толькі Ён здольны прабачыць усё, усім і заўсёды.

### XXV ЗВЫЧАЙНАЯ НЯДЗЕЛЯ

**Лк 16, 1–13**

Казаў Езус сваім вучням: "Здабывайце сяброў сабе нікчэмнай мамонай, каб, калі яна праміне, прынялі вас у вечныя шатры. Верны ў малым і ў вялікім верны, а несправядлівы ў малым несправядлівы і ў вялікім. Таму, калі вы ў нікчэмнай мамоне не былі верныя, хто даручыць вам сапраўднае? І калі ў чужым не былі верныя, хто дасць вам вашае? Ніякі слуга не можа служыць двум гаспадарам, бо ці аднаго будзе ненавідзець, а другога любіць, ці аднаго будзе моцна трымацца, а другім пагарджаць. Не можаце служыць Богу і мамоне".

### ЖЫЦЦЁМ СВЕДЧЫЦЬ ПРА ХРЫСТА

Езус прыгадвае сваім вучням, што будзённасць складаецца з малых, няважных, на першы погляд, рэчаў. Кожнаму чалавеку Богам даручана выкананне канкрэтнай місіі, здзяйсненне яе сваім існаваннем. У канцы жыцця Пан запытаецца кожнага з нас: "Як ты выкарыстаў дадзены час, свае таленты і здольнасці? Ці памножваў ты іх, адкінуўшы лянноту і нядбайнасць?". Кожны пачуе словы: "Зрабі справаздачу пра кіраванне сваё".

Перад смерцю святы Геранім казаў: "Калі хочаце мець спакойнае сумленне ў смяротны час, то ў жыцці адрывайцеся ад усяго. Калі ў гэтую страшную хвіліну не хочаце баяцца, не любіце таго, што павінны будзеце пакінуць".

Давайце заўсёды і ўсюды ўсім людзям рабіць дабро! Давайце сваім жыццём сведчыць пра Хрыста, нашага Пана!

*Кс. Юрый Марціновіч*



**Слова рэдактара**

*Кс. Юрый Марціновіч*

# Любі і будзь любімым

*Дакладна тыдзень таму Святы Айцец Францішак афіцыйна прылічыў да ліку святых Маці Тэрэзу з Калькуты – простую, сціплую жанчыну, якая ва ўбогіх разгледзела аблічча Хрыста. Перажываючы кожную падораную Панам Богам хвіліну жыцця, яна станавілася знакам Яго міласэрнасці, якая была як соль, што надае смак усякай справе. Рабілася святлом у цемры для тых, хто ўжо нават не меў слёз, каб аплакваць свае пакуты.*

Служачы сярод самых бедных, яна паказвала ўсяму свету, што варта і нават трэба нястомна прыходзіць на дапамогу іншаму чалавеку. Ужо пры жыцці многія называлі яе святой. Ад журналістаў манахіня вельмі часта чула пытанні: "Маці Тэрэза, як вы лічыце, чаму людзі называюць Вас «хадзячай святой»?". Тады яна адказвала: "Не здзіўляйцеся, калі бачыце ўва мне Езуса, таму што кожны з нас пакліканы быць святым". Манахіня прыгадвала людзям, што святасць – не прывілей для выбраных, а абавязак усякага чалавека.

Аднойчы ў аэрапорце, накіроўваючыся з місіяй у чарговую краіну, Маці Тэрэза заўважыла ўбогую і няшчасную жанчыну, якая была вельмі сумнай. Адыходзячы да самалёта, яна падышла да незнаёмкі і сказала: "Прывітанне. Я Маці Тэрэза. Вось мая візітка". На картачцы не было кантактнай інфармацыі, а толькі яе вядомае выказванне: "Плёнам цішыні з'яўляецца малітва, плёнам малітвы – вера, плёнам веры ёсць любоў, плёнам любові – служэнне, плёнам служэння – супакой". Яна зрабіла так, бо бачыла, што гэтай асобе неабходны дробны жэст дабрыні, любові, спачування.

Сёння навокал многа такіх няшчасных, разгубленых і адрынутых. Нас кожны дзень акружаюць розныя людзі, у тым ліку і тыя, каму неабходна невялічкае праяўленне любові. Тое, што некалі рабіла Маці Тэрэза, сёння можа зрабіць кожны з нас. Давайце праз звычайныя рэчы даваць свету і ўсім вакол незвычайную любоў. Давайце прынясём радасць і ўсмешку блізкім, выкажам словы падтрымкі, падорым прыгожую кветку і прыйдзем на дапамогу таму, хто аказаўся ў патрэбе. Памятайма пра тое, што кожнага з нас Бог стварыў для вялікіх рэчаў. І адна з іх – любіць і быць любімым.

**Падзякуем міласэрнаму Богу за тое, што даў нам св. Тэрэзу з Калькуты, якая праз нястомную малітву – крыніцу ўсіх спраў духоўнай і цялеснай міласэрнасці – стала адлюстраваннем любові да Бога і прыкладам служэння іншым.**

# УЧЫНАК ДЛЯ ЦЕЛА БЛІЖНЯГА. АДЗЕЦЬ НАГІХ




Першыя людзі не мелі адзення. "І былі абодва голыя, Адам і жонка ягоная, але не саромеліся" (Быц 2, 25). Усё радыкальна змяніў грэх. "І адкрыліся ў іх абоіх вочы, і пазналі яны, што голыя, і сшылі лісты смакоўніцы, і зрабілі сабе павязкі" (Быц 3, 7). Галізна, якая была чымсьці натуральным, стала сарамлівай, тым самым пацвярджаючы аддаленне людзей ад Бога ў выніку граху.

З таго часу чалавек не ўяўляе сваё жыццё без адзення. Акрамя заспакоенай няёмкасці, яно абараняе цела ад неспрыяльных умоў надвор'я, а таксама выконвае эстэтычную функцыю. Адсутнасць адзення можа прывесці да хваробы ці нават смерці, але таксама становіцца прызнакам убоства і выстаўляе чалавека на смех і ганьбу. Асоба міжвольна страчвае годнасць і становіцца заложнікам абставін, у якіх апынулася.

Не будзем падманвацца, усе па-іншаму глядзяць на добра апранутага чалавека, чым на кагосьці ў брудных лахманах. Нядаўна дзіцячы фонд ААН у Грузіі правёў сацыяльны эксперымент, які паказаў, наколькі моцна залежыць меркаванне людзей ад адзення, якое носіць чалавек. Спецыялісты ЮНІСЕФ знялі схаванай відэакамерай, як прахожыя на вуліцы рэагавалі на "пакінутую" дзяўчынку, апранутую па-рознаму: у прыгожай чыстай вопратцы і як бяздомную. У першым выпадку людзі падыходзілі да яе, пыталіся, дзе бацькі. У другім выпадку перасталі заўважаць дзяўчынку, прасілі ахоўнікаў вывесці яе з кафэ, куды тая зайшла. Эксперымент паказаў, што бедныя людзі на вуліцы звычайна сутыкаюцца альбо з абыякавасцю, альбо з агідай.

А такіх патрабуючых вакол нас шмат. Дастаткова адкрыць вочы, каб іх заўважыць. Гэта могуць быць людзі з цяжкім фінансавым становішчам або тыя, хто часова зведвае патрэбу. Дарэчы, нават у Хрыста адабралі адзенне, пазбавілі Яго чалавечай годнасці. Салдаты, калі ўкрыжавалі Езуса, узялі шаты і раздзялілі паміж сабой на чатыры часткі. Таму і Хрысту ў смяротны час давялося стаць мішэнню абраз, зняваг і здзекаў. Нягледзячы на гэта, Ён выпрасіў у Айца прабачэнне для людзей і збавіў свет...

Адзенне аднолькава важна і неабходна, як піцце і ежа. Пра гэта згадваецца ў Кнізе Сіраха: "Галоўныя жыццёвыя патрэбы: вада, хлеб, адзенне і дом, каб прыкрыць галізну" (Сір 29, 21). У Новым Запавеце св. Павел толькі пацвярджае гэтую ісціну: "Але, маючы спажытак і чым прыкрыцца, будзем жа задаволеныя гэтым" (1 Цім 6, 8). Таму няма нічога дзіўнага ў тым, што вобраз Апошняга Суда ў навучанні Хрыста ўключае абяцанне ўзнагароды – "быў голы, і вы апранулі Мяне" (Мц 25, 36) – і пакарання – "быў голы, і вы не апранулі Мяне" (Мц 25, 43).



Дадзены ўчынак міласэрнасці мае таксама і духоўнае вымярэнне. Апрануць нагіх у інтэрпрэтацыі св. Паўла значыць пайсці за Езусам і прыняць хрост: "Бо ўсе вы, хто ахрысціўся ў Хрыста, у Хрыста апрануліся" (Гал 3, 27). Вера гарантуе пераапрананне ў новага чалавека, створанага па вобразе Бога.

Духоўнае тлумачэнне пацвярджаецца ў Апакаліпсісе св. Яна. У вобразе трыумфу выбраных з'яўляецца абяцанне, што "яны стаялі перад тронам і Баранкам, апранутыя ў белыя шаты і з пальмовымі галінкамі ў руках сваіх" (Ап 7, 9). На пытанне, хто яны, гучыць адказ: "Гэта тыя, хто прыйшоў з вялікага ўціску і абмыў шаты свае, і выбеліў іх у крыві Баранка" (Ап 7, 14). Кроў Баранка, Езуса Хрыста, ачысціла ад грахоў. Белае адзенне – гэта сімвал прабачэння він і вяртання страчанай годнасці праз атрыманне дару збаўлення. Апрананне нагіх побач з неадкладнай дапамогай азначае таксама абавязак дзяліцца дарам Евангелля, прынясце якога робіць чалавецтва здольным да ўдзелу ў славе, распачатай ад уваскрасення Хрыста.

**5 прычын здзейсніць учынак міласэрнасці:**

1. *Дзякуючы адрасату, можна рэалізаваць сваю любоў да бліжняга.*
2. *Дапамога патрабуючым – знак блаславлення, які збліжае і аб'ядноўвае людзей.*
3. *Дабрачыннасць з'яўляецца сведчаннем сардэчнасці і братэрства.*
4. *Адзець нагога – значыцца вярнуць чалавеку страчаную годнасць.*
5. *Духоўная вопратка ўяўляе сабой "шаты збаўлення".*



*Кс. Віталій Дабраловіч*

*Уменне кіраваць сваім духоўным і матэрыяльным багаццем на карысць бліжняму стварае фундамент Божага духа. Праз міласэрнасць мы вучымся і вучым іншых нястомна клапаціцца адзін пра аднаго на працягу ўсяго жыцця. Часта ўзнікае пытанне: як я, просты чалавек, магу дапамагчы патрабуючаму? У дадзеным выпадку варта задаць сабе другое пытанне: што я раблю з рэчамі ў добрым стане, якімі ніхто не карыстаецца? Непатрэбным абуткам, адзеннем, гаспадарчым інвентаром можна падзяліцца з бліжнім, каб ўратаваць таго ад холаду або палепшыць яго быт да вышэйшага ўзроўню. У каталіцкім Касцёле добрыя справы можна здзяйсніць праз парафіяльныя супольнасці, дабрачынныя арганізацыі (у межах нашай краіны – гэта "Карытас"). Але не толькі матэрыяльныя рэчы складаюць практычную міласэрнасць нашага жыцця. Гэта і, напрыклад, добраахвотна ахвяраваны ўласны час. Кожны з нас мае нешта асабістае, чым можа падзяліцца з другой патрабуючай асобай.*

*Ангеліна Пакачайла*

# 25 гадоў у дарозе за Езусам

*28 жніўня пяць манахінь з Кангрэгацыі Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта адзначылі сярэбраны юбілей манаскага жыцця. Падчас урачыстай св. Імшы с. Марыяна, с. Галіна, с. Карытас, с. Нэрэуша і с. Іерэмія адспявалі Найвышэйшаму гімн "Te Deum" як удзячнасць за ласку паклікання і 25 гадоў манаскага жыцця, поўнага малітвы, ахвярнай працы, радасці, а часам цяжкасцей і цярпення.*



Сёстры-юбіляркі разам з кс. біскупам Аляксандрам Кашкевічам

Святочная падзея, якая адбылася ў гродзенскай катэдры, сабрала родных і сяброў юбілярак, а таксама шматлікіх святароў і манаскіх сясцёр. Св. Імшу ўзначаліў кс. бп Аляксандр Кашкевіч. У гаміліі іерарх казаў пра кансэкраванае жыццё як пра вялікі дар. "Гэта асаблівая сувязь, якая злучае пакліканую асобу з Хрыстом. Невыпадкова яе параўноўваюць з каханнем паміж мужам і жонкай, – адзначыў бп Кашкевіч. – Складаючы абяцанні чыстасці, убоства і паслухмянасці, манаская сястра вырашае ўсё сваё жыццё аддаць ва ўласнасць Езуса. Ніхто, акрамя Яго, не можа завалодаць ні яе душой, ні розумам, ні сэрцам, ні целам. Толькі Ён «мае права» быць адзіным каханнем манахіні. Гэты ўнутраны дыялог любові, які нястомна адбываецца паміж Хрыстом і кансэкраванай асобай, з'яўляецца вялікай таямніцай".

Біскуп таксама адзначыў, што для акружаючых такі выбар можа здавацца дзіўным, незразумелым і пазбаўленым сэнсу. Некаторыя, асабліва тыя, хто не зусім блізка знаёмы з жыццём Касцёла, часта глядзяць на манаскае пакліканне як на дзявоцтва, своеасаблівы спосаб уцёкаў ад свету або нікому не патрэбнае адрачэнне ад асабістага шчасця. І толькі сама кансэкраваная асоба ведае (хоць і не разумее да канца таямніцу свайго паклікання), што гэта для яе адзіная дарога, на якой адшукае сапраўднае шчасце, сэнс жыцця і глыбокую радасць прыналежнасці да Хрыста.

"Асоба, якая выбірае манаскае жыццё, падобна да святога Паўла, які з прастатой і шчырасцю пісаў: «Для мяне жыццё – гэта Хрыстос» (Флп 1, 21). Кансэкраваныя асобы, якія з любові да Езуса бескарысліва прысвячаюць жыццё служэнню бліжняму, паказваюць нам усім, Касцёлу і цэламу свету, што такая пастава магчымая. Варта дзяліцца сабой, варта быць дарам для іншых", – заўважыў гродзенскі ардынарый.

Пасля гаміліі сёстры-юбіляркі аднавілі манаскія абяцанні. На ахвяраванне прынеслі да алтара дары, дзякуючы за 25 гадоў манаскага жыцця, аддадзенага на выключную службу Найвышэйшаму.

Завяршэннем урачыстасці сталі цёплыя і сардэчныя словы, якія сёстры назарэтанкі скіравалі духавенству, манахіням з кангрэгацыі, а таксама бацькам, сябрам і ўсім, каго Пан паставіў на іх шляху і ад каго яны зведалі шмат дабрыні і зычлівасці. Юбіляркі склалі ўдзячнасць Богу за апеку і шматлікія ласкі, шчодра Ім дараваныя.

*Кангрэгацыя Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта – гэта міжнародная апостальская супольнасць, заснаваная ў 1875 годзе бл. Марыяй ад Пана Езуса Добрага Пастыра – Францішкай Сядліскай. Сёстры жывуць і служаць у 170-ці супольнасцях у 13-ці краінах на 5-ці кантынентах. Харызмай кангрэгацыі з'яўляецца супрацоўніцтва з Хрыстом і Яго Касцёлам у пашырэнні валадарства Божай любові паміж сабой і сярод іншых, а асабліва ў сем'ях. Дэвіз кангрэгацыі: "Fiat voluntas Tua" ("Будзь воля Твая").*



**Сястра Карытас Шапель CSFN**

*З нашай групы сясцёр, сёлетніх юбілярак, я першая звярнулася ў супольнасць. Адразу пасля заканчэння школы пастукалася ў дзверы манаскага дома сясцёр назарэтанак у Гродне. Дарэчы, да ўступлення ў кангрэгацыю я ніколі не мела справы з манахінямі. Упершыню ўбачыла манаскую сястру падчас святых Місій у роднай парафіі. Тады і нарадзілася думка, каб пайсці ў кляштар і ахвяраваць сябе Пану Богу. Канешне, нялёгка ісці ў невядомае. Аднак любоў да Хрыста і жаданне накіроўвацца за Ім перамаглі.*

*Сёння, азіраючыся на 25 гадоў назад, я выразна бачу, што варта было пайсці за голасам паклікання, каб служыць Богу і людзям. Няхай мая паслуга і далей будзе цудоўным праслаўленнем Пана, а штодзённая праца прыносіць радасць, супакой і любоў.*



**Сястра Галіна Занеўская CSFN**

*Па меры сталення чалавек задумваецца над сэнсам жыцця і сваім прызначэннем. У пэўны момант я пачала прасіць Пана, каб даў мне нейкі канкрэтны знак, указаў тую дарогу, на якой я б змагла рэалізаваць сябе і сваё пакліканне. Паступова ўва мне выспела жаданне пайсці ў кляштар. Вырашыла далучыцца да Сясцёр Найсвяцейшай Сям'і з Назарэта, таму што асноўныя каштоўнасці, якімі жывуць сёстры, – гэта адданасць Касцёлу і служба сем'ям. А мне вельмі хацелася агарнуць сваёй апекай менавіта сем'і.*

*Пан Бог так пакіраваў маім жыццём, што я не магла прысвячаць больш часу свайго часу малітве ў кляштары, хоць вельмі гэтага прагнула. Мне была даручана катэхізацыя. На працягу ўсіх гадоў сваёй паслугі старалася годна выконваць гэтую працу, і пры гэтым аказваць малітоўную падтрымку сем'ям, несці ім радасць, супакой і згоду.*



**Сястра Марыяна Алешчык CSFN**

*Гэта былі выключныя 25 гадоў майго жыцця, якія ніколі не паўторацца. Гады, напоўненыя энтузіязмам, радасцю, аптымізмам, закаханасцю ў Езуса. За гэты час Пан узмацняў мяне ласкай паклікання, выхоўваў, фарміраваў па-свойму. Бог пасылаў на мой шлях тысячы людзей, кожны з якіх па-свойму ўдзельнічаў у працэсе майго станаўлення. Я вельмі ўдзячна ўсім, каго сустрэла ў жыцці: святарам – за іх падтрымку, сёстрам з супольнасці – за любоў і разуменне, дзецям і моладзі, якіх я катэхізавала, – за тое, чаму навучылася ад іх.*

*Усё, што я маю і магу даць іншым, кім з'яўляюся, усе дары і таленты, якімі валодаю, паходзяць ад Езуса. Хвала Пану, што пасля стольких гадоў манаскага жыцця я надалей застаюся шчаслівай назарэтанкай!*



**Сястра Нэрэуша Падзялінская CSFN**

*Гаворачы пра манаскае жыццё, варта прыгадаць фрагмент з Кнігі Мудрасці Сіраха: "Сыне, калі ты намерваешся служыць Пану, падрыхтуй сваю душу да спакус! Захавай супакой у сэрцы і будзь цвёрды, не губляй раўнавагу ў час смутку! [...] Бо золата правяраецца ў агні, а людзі, мілыя Богу, – у печы прыніжэння" (Сір 2, 1–2.5). Усявышні не абяцае лёгкага жыцця тым, каго заклікае да асаблівай сувязі з сабой. Нават наадварот, запрашае да "праверкі ў агні". Такім "агнём" могуць быць цяжкасці з прыняццем волі настаяцеляў, міжчалавечыя канфлікты, сум па родным доме, праблемы з малітвай, сумненні адносна правільнасці выбранага шляху і многа іншых. Такім чынам, кляштар з'яўляецца своеасаблівым фронтам у барацьбе за Божае Валадарства. Патрабуе адрачэння, сіл, просіць пакінуць блізкіх сэрцу людзей і рэчы. Аднак, нягледзячы на цяжкасці, з якімі сутыкаюцца кансэкраваныя асобы, дарога манаскага жыцця цудоўная, таму што нараджаецца ў вольнасці з бясконцай любові Стварыцеля да свайго стварэння: "Я прыцягваў іх повязямі чалавечнасці, повязямі любові" (Ос 11, 4).*



**Сястра Іерэмія Кулікоўская CSFN**

*За 25 гадоў манаскага жыцця я прыйшла да высновы, што прысутнасць сясцёр у грамадстве адыгрывае важную ролю. Побач з намі людзі розных сацыяльных слаёў адкрываюць патаемныя закуткі сваіх душ, дзеляцца сваімі праблемамі, просяць парады. Часам мы натхняем іх зрабіць рахунак сумлення і прааналізаваць сваё жыццё. Але не менш важны і той факт, што людзі, якіх Бог ставіць на шляху, у сваю чаргу, натхняюць нас на пошукі шляхоў самаразвіцця. Таму юбілей манаскага жыцця – гэта не падвядзенне вынікаў, а ўсяго толькі чарговая прыступка на шляху ўдасканалення і рэалізацыі свайго паклікання. А асабіста для мяне гэта яшчэ і добрая нагода, каб у чарговы раз падзякаваць бацькам, брату, бабулі, якія праявілі разуменне і прынялі маё рашэнне пайсці ў кляштар. На працягу ўсіх гэтых гадоў мае блізкія не толькі раздзялялі са мной радасныя моманты, але і дапамагалі ў цяжкія хвіліны, аказвалі малітоўную падтрымку, былі мне апорай.*

**Кінга Красіцкая**




## Малітва аб атрыманні ласкаў праз заступніцтва бл. Марыі ад Пана Езуса Добрага Пастыра (Францішкі Сядліскай)

**Божа, няхай прыклад бласлаўлёнай Марыі ад Пана Езуса Добрага Пастыра, жар яе кахання да Цябе і велікадушная любоў да бліжняга ў служэнні іншым будуць для нас натхненнем і дапамогай у нашай дзейнасці.**

**Просім Цябе, удзялі нам праз яе заступніцтва ласку, якую прагнем атрымаць для большай Тваёй хвалы і дзеля нашай духоўнай карысці.** *Амэн.*

# Слова для жыцця

### Папа Францішак



*"Калі нехта пакліча цябе на вяселле, не сядай на першае месца, каб не аказалася, што нехта з пакліканых ім больш ганаровы за цябе, і каб той, хто запрасіў і яго, і цябе, не падышоў і не сказаў табе: «Саступі яму месца»... А калі цябе запросяць, прыйдзі і сядай на апошняе месца" (Лк 14, 8–9). Гэтымі рэкамендацыямі Езус не намерваецца даваць нам правілы паводзін. Ён дае ўрок пра каштоўнасць пакоры. Гісторыя вучыць, што пыха, кар'ерызм, ганарыстасць і хвальба – прычыны шматлікага зла. Збаўца дае нам зразумець, што трэба выбіраць апошняе месца, быць сціплым і не вылучацца. Калі мы становімся перад Богам у гэтым вымярэнні пакоры, тады Бог нас узвышае, нахіляецца да нас, каб узняць да сябе. "Бо кожны, хто ўзвышае сябе, будзе паніжаны, а хто паніжае сябе, узвысіцца" (Лк 14, 11).*

"Анёл Панскі" са Святым Айцом, 28.08.2016

### Кс. бп Аляксандр Кашкевіч



*Марыя не толькі ахінае сваіх дзяцей любоўю і апекай, як гэта робяць зямныя маці і бацькі, але і мае пэўныя чаканні, ставіць некаторыя патрабаванні, прагне нашага духоўнага росту.*

*Часта ў касцёлах і капліцах можна ўбачыць, як маці прыходзіць з малым дзіцём, бярэ яго за ручку і дапамагае зрабіць знак крыжа, падымае, каб магло пацалаваць распяцце пры ўваходзе, паказвае на табернакль, шэпчучы на вуха, што там жыве Пан Езус, альбо паказвае па чарзе абразы і фігуры, растлумачваючы, хто на іх прадстаўлены.*

*Падобным чынам і Марыя, ніколі не займаючы належнага Хрысту месца, указвае нам на свайго Сына, вядзе да Яго, паказвае, што Ён – Езус Хрыстус – павінен быць найважнейшым у нашым жыцці. Яго мы павінны прытрымлівацца, за Ім накіроўвацца – і тады не заблукаем.*

Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас урачыстасцей МБ Чанстахоўскай у Ашмянах

### Кс. абп Тадэвуш Кандрусевіч



*У вачах Бога мы ўсе аднолькавыя і роўныя. Адзінае, што адрознівае нас адно ад аднаго, – гэта нашыя сэрцы. У кагосьці яны з плоці, у кагосьці – з каменю. Толькі Бог, які ведае сэрцы, мае права зрабіць нас вялікімі. На жаль, некаторыя хочуць быць важнейшымі за Езуса. З гэтай мэтай яны нават імкнуцца змяніць Евангелле, забываючыся пра тое, што гэта не мы павінны яго змяняць, а яно нас.*

*Пакора з'яўляецца вуглавым каменем усіх цнот. Св. Аўгусцін кажа, што, калі мы хочам высока ўзляцець, спачатку павінны падумаць аб фундаменце пакоры. Цудоўны прыклад таго падаў евангельскі сотнік, які прамовіў словы, што да сённяшняга дня паўтараюцца падчас св. Імшы перад Камуніяй: "Пане, я не варты, каб Ты ўвайшоў пад дах мой" – "Пане, я не варты, каб Ты ўвайшоў да мяне". Нягледзячы на агульную тэндэнцыю секулярызацыі, Папы апошніх часоў часта атрымліваюць званне "Чалавек года". Чаму так адбываецца? Бо яны пакорныя.*

Фрагмент гаміліі, прамоўленай падчас св. Імшы ў Мышынцы




◆ *Папа Францішак рыхтуе на 20 лістапада кансісторый, дзе будуць абвешчаны прозвішчы новых кардыналаў. Сярод 107 асоб, якія маюць права ўдзелу ў канклаве, 49 паходзяць з Еўропы, 19 – з Лацінскай Амерыкі, 14 – з Афрыкі, 12 – з Азіі, 10 – з Паўночнай Амерыкі і 3 – з Акіяніі. У суме яны прадстаўляюць 59 краін свету. Святы Айцец хоча зрабіць больш выразнай ідэю паўсюднасці каталіцкага Касцёла. Кансісторый стане трэцім за час пантыфікату папы Францішка.*

◆ *Праведзенае ў 64-ох краінах апытанне паказала, што да папы Францішка пазітыўна адносяцца ў сярэднім 54% іх насельнікаў. Найлепш ставяцца да яго жыхары Партугаліі (94%), а сярод кантынентаў – Лацінскай Амерыкі (77%). Папулярнасць Папы выходзіць за межы каталіцкага Касцёла: аб ім пазітыўна выказваюцца больш за палову яўрэяў, пратэстантаў і нават атэістаў. Апытанне было праведзена паміж верасенем і снежнем мінулага года сеткай установаў маркетынгавых даследаванняў "WIN".*

◆ *У Замбіі па ініцыятыве мясцовага епіскапата распачаліся ўрачыстасці юбілею евангелізацыі. Першыя місіянеры прыбылі ў гэтую краіну ў жніўні 1891 года. Дэвіз святкавання: "125 гадоў Божай любові і міласэрнасці". Як узгадвае абп Ігнацій Чама, першыя місіянеры сутыкнуліся ў Замбіі з супольнасцю, поўнай праблем, многія з якіх дагэтуль поўнасцю не вырашаны. Аднак Касцёл заўсёды стараўся прыносіць гэтым людзям Добрую Навіну аб Божым Валадарстве і аб надзеі годнага, бяспечнага жыцця на зямлі.*

◆ *У санктуарыі Маці Божай Чанстахоўскай у Мерылвілі ў амерыканскім штаце Індыяна адбыліся паланійныя ўрачыстасці з нагоды 1050-годдзя хросту Польшчы. Да святкавання далучылася Палонія не толькі з Чыкага, але і з штатаў Ілінойс, Індыяна і Мічыган. Мноства пілігрымаў прыбыло таксама з іншых частак ЗША. Канцэлебраваную св. Імшу ўзначаліў бп Юзаф Завіткоўскі. У гаміліі іерарх падкрэсліў выключнасць мерылвільскай копіі абраза Маці Божай Чанстахоўскай, у воку якой знаходзіцца сляза – сімвал цярпенняў польскага народа.*

◆ *У межах дня падтрымкі мясцовага "Карытас" на паўночным усходзе Аргенціны спяклі самую вялікую ў гэтай мясцовасці піцу. У вырабе 112-метровай стравы ўдзельнічала 20 кухараў. Яе падзялілі на 5 тыс. кавалкаў. Акрамя таго, было прыгатавана 20 тыс. аргенцінскіх варэнікаў. Усе сродкі, атрыманыя ад продажу ласункаў, былі прызначаны для "Карытас" у г. Расарыё, дзе праходзіла акцыя.*

*credo-ua.org; ekai.pl; niedziela.pl*

***Ангеліна Пакачайла***

# "OPEN": адкрытыя на Бога і бліжняга



*Сёння свету асабліва неабходны добры прыклад моладзі*

● *працяг са с. 1*

## ЖАДАННЕ БЫЦЬ РАЗАМ

Гісторыя душпастырства бярэ пачатак у 2005 годзе, калі група маладых людзей вярнулася з Сусветных дзён моладзі ў Кёльне (Германія). Хлопцы і дзяўчаты, прасякнутыя ідэяй адзінства, выказалі прапанову фарміравацца па-хрысціянску разам: не абмяжоўвацца арганізацыйнымі сустрэчамі напярэдадні СДМ, а мець нешта пастаяннае і стабільнае. Разлік быў на супольнасць, якая ніколі не апусцее за кошт студэнтаў, што прыязджаюць на вучобу ў Гродна. Ды і ў парафіяльных групах маладым людзям стала неяк "цесна"... Так і паўстала Душпастырства студэнтаў і працуючай моладзі г. Гродна. У 2006 годзе біскуп Аляксандр Кашкевіч благаславіў яго на сумесныя сустрэчы пры пабрыгіцкім касцёле пад кіраўніцтвам душпастыра кс. Антонія Грэмзы.

Калі ўзнікла пытанне аб назве, былі такія варыянты, як "Промень надзеі", "Будзем разам"... Спыніліся на "OPEN", што з англійскай мовы перакладаецца як "адкрыты". Назва азначае, што трэба адкрываць сэрцы на Бога і іншага чалавека.

Зараз у душпастырстве каля 80-ці пастаянных удзельнікаў. На жаль, лічба іх меншая, чым была напачатку. "Па-першае, моладзь абмежавана віртуальным светам, – зазначае духоўны кіраўнік кс. Антоній Грэмза. – Маладым людзям прасцей весці камунікацыю праз інтэрнэт, чым у рэальным жыцці. Яны ляноцяцца, як сказаў падчас СДМ у Кракаве папа Францішак, «устаць з канапы» або не маюць адвагі, каб прыйсці і сустрэцца, запытацца аб нечым, пацікавіцца. Збіраюцца тыя, хто жадаюць быць разам. На жаль, іх меншасць. Вялікая частка, якая шукае Бога, падтрымлівае сувязь праз інтэрнэт: дасылае ў сацыяльных сетках свае пытанні. Па-другое, сёння развіваюцца парафіяльныя душпастырствы моладзі, што, канешне, не можа не радаваць".

Сярэдні ўзрост удзельнікаў супольнасці – 20–25 гадоў. Сярод маладых людзей найбольш тых, хто заканчвае вучобу або ўжо працуе. Узроставыя рамкі пашыраюцца да 16–35 гадоў. Як заўважае душпастыр, маладыя навучаюцца ў старэйшых, старэйшыя – у маладзейшых. Разам яны клапоцяцца пра заўтра, прытрымліваючыся дэвіза супольнасці: "Будучыня ў вашых сэрцах і вашых руках".

## РОЗНЫЯ ІНТАРЭСЫ – МЭТА АДНА

У межах душпастырства дзейнічаюць некалькі груп. Найбольш папулярная з іх – "Уваскрасенне". Гэта дабрачынная суполка, у якой займаюцца дапамогай хворым дзецям, сіротам, бяздомным. Валанцёры збіраюць ахвяраванні, дары, удзельнічаюць у шматлікіх мерапрыемствах і акцыях у падтрымку патрабуючых. "Неабавязкова быць багатым або мець уплыў, каб дапамагаць, – заўважае Алена Харольская. – Дастаткова мець сэрца, адкрытае на дабрыню і разуменне".

Яшчэ адна вялікая па колькасці ўдзельнікаў група – "Caritas Dei". Гэта малітоўная суполка маладых людзей, якія збіраюцца на паўтарагадзінную адарацыю перад Найсвяцейшым Сакрамантам. У цішыні або сумесным праслаўленнем моладзь моліцца ў розных інтэнцыях і намерах. Як падкрэслівае кс. Антоній, маладыя людзі вядуць малітву самі (духоўны кіраўнік толькі спадарожнічае). І вельмі шануюць гэты час, які знаходзяць для Бога ў мітусні свету.



*Кёльн стаў кропкай адліку ў лёсе гродзенскага душпастырства моладзі*

Таксама ў душпастырстве ёсць група "Ружа Маці Божай Фацімскай". Моладзь яднаецца ў сумеснай малітве на ружанцы, што робіць яе яшчэ мацнейшай. Штомесячна маладыя людзі збіраюцца, каб змяняць паміж сабою таямнічкі.

Біблейская група "Effata" сустракаецца для разважання над Святым Пісаннем. "Некаторыя прыходзяць проста паслухаць, – заўважае кс. Антоній. – Маладыя людзі разам разважаюць, вучацца слухаць Бога і прымяняць Яго Слова ў жыцці".

Ужо 3 гады пры душпастырстве існуе музычны гурт з аднайменнай назвай "OPEN". Яго ўдзельнікі дзеляцца сваімі талентамі праз спеў і ігру на музычных інструментах.

Маладыя людзі збіраюцца разам на агульных сустрэчах. Маяк са свечкай, які запальваецца на пачатку і напрыканцы спаткання, сімвалізуе святло, надзею і верны шлях, які можна знайсці дзякуючы Хрысту і Марыі. Часам на гэтыя спатканні прыходзяць навічкі. На першую сустрэчу "OPEN" бягучага душпастырскага года па запрашэнні сябра прыйшоў Андрэй Радзевіч. Як зазначае сам, з'яўляецца католікам, але ў касцёле бывае нячаста і пра супольнасць гэтую раней не чуў. "Так здарылася, што я «выпаў з жыцця». Трапіў у дарожна-транспартнае здарэнне і зараз знаходжуся на лячэнні. У мяне з'явіўся час, ды і цікава пазнаёміцца з новымі людзьмі".

## СУМЕСНЫМІ НАМАГАННЯМІ

Душпастырства паспяхова трансфармуецца ў новыя формы. Дзякуючы актыўным удзельнікам "OPEN", некалькі гадоў таму ў Гродне паўстаў евангелізацыйны курс "Альфа". За гэты час яго наведалі больш за сотню чалавек. Такім чынам, удзельнікі душпастырства пачалі дзяліцца сваёй верай не толькі ў коле супольнасці, але і па-за яго межамі сярод тых, каму яшчэ складана даверыцца Богу.

Пры "OPEN" таксама існуе група афрыканскіх студэнтаў. Моладзь з Нігерыі, Камеруна і Філіпінаў удзельнічае ў сумесных сустрэчах душпастырства. Разам з іншымі яны святкуюць Вялікдзень і Божае Нараджэнне. Даюць канцэрты, дзеляцца адметнасцю сваёй веры. Наколькі маладыя людзі з розных кантынентаў з'ядналіся, можна меркаваць па тым, што яны давяраюць адзін аднаму свае праблемы, гатовыя адказаць на патрэбы бліжняга. Такім чынам, у мінулым годзе ўдзельнікі супольнасці купілі для хворага на рассеяны склероз хлопца з Нігерыі спецыяльны масажор для лячэння.

Штогод "OPEN" арганізуе такія вядомыя акцыі, як "Ружанец праз Skype", "Пячэнька за пячэньку". Традыцыйны Крыжовы шлях вуліцамі Гродна – таксама ініцыятыва душпастырства. Акрамя таго, лідары супольнасці падтрымліваюць свайго душпастыра ў шматлікіх дыяцэзіяльных мерапрыемствах.

"Дзякуючы «OPEN», я даведаўся пра сустрэчы «TAIZE» і «LEDNICA», – гаворыць Андрэй Шышко. – Рэгулярна езджу на спатканні. І кожны раз адкрываю для сябе нешта новае". Але "OPEN" – гэта не толькі дзейнасць унутры душпастырства. "Мы арганізоўваем сумесныя паходы ў тэатр, кіно, падарожнічаем, – распавядае Алена Харольская. – Так бліжэй пазнаём адзін аднаго і становімся добрымі сябрамі".

За час існавання супольнасці ў душпастырстве зарадзілася адно манаскае пакліканне і каля 30-ці сямей. Сужэнствы з'яўляюцца цудоўным прыкладам любові, у цэнтры якой знаходзіцца Бог. "Я пазнаёміўся са сваёй нарачонай на сустрэчах «OPEN», – распавядае Эдуард Ількевіч. – Мы размаўлялі, я запрасіў яе на адарацыю. Затым разам наведвалі вечарынкі душпастырства. А надалей павянчаліся ў пабрыгіцкім касцёле. Я жанаты 57 дзён, і я самы шчаслівы чалавек у свеце!".

Мінула 8 гадоў, як па ініцыятыве сужэнцаў паўстала душпастырства маладых сем'яў. Пары мелі намер працягваць сустрэчы, але ўжо ў іншай форме. Сёння сем'і раз на месяц разам з дзецьмі прыходзяць на спецыяльную св. Імшу і катэхезу.

## МОЦ – У СУПОЛЬНАСЦІ!

Як прызнаецца ў размове кс. Антоній, часамі моладзь неабходна падштурхоўваць да нечага, падказваць. Папярэдне прыслухоўвацца да маладых, каб ведаць, чым яны жывуць і як іх накіраваць. "Я як душпастыр магу думаць пра адно, а моладзь можа хваляваць другое. Таму тэматычную праграму сустрэч мы плануем разам. Лічу гэта вялікім узаемным багаццем".

Часам у душпастырства трапляюць маладыя людзі з параненых сем'яў, якія не ўмеюць давярацца Хрысту, не разумеюць гэтай патрэбы. Прыходзяць залежныя ад дрэнных звычак, з некаторымі псіхічнымі праблемамі, што ставяцца да Касцёла з недаверам. Але прыходзяць! "«OPEN» можна параўнаць з аазісам, – гаворыць Алена Багдан. – Гэта своеасаблівы «глыток вады» ў пустыні жыцця. Хочацца верыць, што ўдзельнікі душпастырства атрымліваюць у супольнасці духоўную ежу і падтрымку".

Душпастыр "OPEN" сціпла заўважае, што дзейнасць супольнасці падобная да кроплі ў акіяне. "Можна было б нашмат больш выкарыстаць патэнцыял моладзі. Але сёння яна часта хоча ісці па жыцці лёгкім шляхам. Палохаецца таго, што Касцёл можа мець нейкія патрабаванні. А каб умацоўвацца ў веры, проста неабходна прайсці праз некаторыя выпрабаванні шляхам служэння і ахвяры".

У супольнасці маладыя людзі раскрываюцца, паглыбляючы свой духоўны досвед. "Я навучыўся ў моладзі перажываць веру ў радасці, – адзначае кс. Антоній. – Слухаць іншага чалавека, ахвяраваць для яго свой час. Быць адкрытым на бліжняга, незалежна ад яго веравызнання. Не баяцца нечага новага, не затрымлівацца на месцы, эксперыментаваць разам з маладымі людзьмі. З энтузіязмам паглыбляць сваю веру, шукаючы іншыя шляхі евангелізацыі. І гэта вялікі скарб: вучыцца нечаму адзін у аднаго і разам несці ўсёй моладзі Добрую Вестку аб збаўленні".

***Ангеліна Пакачайла***

*Сустрэчы душпастырства моладзі "OPEN" адбываюцца* ***кожны чацвер у 19.15*** *(св. Імша і агульнае спатканне) у пабрыгіцкім касцёле па адрасе:* ***г. Гродна, вул. Маладзёжная, 2.***

*Біблейская група "Effata"* ***– панядзелак, 20.00.***

*Дабрачынная група "Уваскрасенне"* ***– аўторак, 20.00.***

*Музычны гурт "OPEN"* ***– серада, 20.00.***

*Малітоўная група "Caritas Dei"* ***– пятніца, 19.30.***

***Далучайцеся!***

*Вера нараджаецца са слухання (параўн. Рым 10, 17), – гаворыць святы Павел. Таму вельмі важна слухаць тое, што абуджае і корміць веру. Наш далёка не маўклівы свет няспынна напаўняе жыццё вялікай колькасцю гукаў: ад ракатання аўтамабіляў да мармытання на хвалі радыёстанцыі. Што нясуць гэтыя гукі? Неспакой? Напружанне? Запаўненне пустаты, якая абуджаецца ў цішыні? Калі нельга пазбегнуць гэтага дысананснага выкліку, то ці не варта яго замяніць на сэнсоўны меладычны змест? Альтэрнатывай пустазвону можа быць музычная хваля веры.*

# НА МУЗЫЧНАЙ ХВАЛІ ВЕРЫ



**Прапануем Вашай увазе праект “РЫБЫ”. Каля 20-ці таленавітых маладых людзей у яго складзе ствараюць музыку, якая нясе любоў і дабро. Прыемна, што да гэтай справы маюць дачыненне і некалькі нашых землякоў: Наталля Каспяровіч з Бярозаўкі, Павел Якуць з Ліды, Паўліна Жых са Смаргоні і Ала Яновіч з Гальшанаў. У інтэрв'ю для газеты “Слова Жыцця” ўдзельнікі праекта распавядаюць пра сваю веру, творчасць і натхненне.**

***“РЫБЫ”. Як нарадзілася ідэя праекта і чаму такая назва?***

**Наталька:** Ідэя, спадзяёмся, належыць Богу. А ў чалавечае сэрца яна трапіла праз Ядзю Багдановіч. Памятаю, як мы размаўлялі з ёй, стоячы ў калідоры падчас летняй сесіі рэкалекцый “Школы хрысціянская жыцця і евангелізацыі”. Ядзя дзялілася сваімі перажываннямі накошт таго, што на беларускай зямлі так шмат таленавітых выканаўцаў, а музыкі аніякай паслухаць няма. “Трэба падымаць моладзь!”.

**Алена:** У жніўні 2012 года да мяне патэлефанавала дзяўчына і прапанавала сустрэцца. Сказала так: “Ёсць натхненне. Давай рабіць!”. Я згадзілася. Мы знайшлі музыкантаў. На працягу паўтара гадоў збіраліся і



рэпеціравалі. Ніхто асабліва пра нас не ведаў. Мы расказалі пра сябе ў студзені 2014 года падчас прэзентацыі першага альбома.

**Віталік:** Што датычыцца назвы, то гэта асобная гісторыя. Я ствараў суполку ў сацыяльнай сетцы, каб дзяліцца там запісамі, агаворваць час рэпетыцый і да т. п. Назву напісаў першую, што прыйшла ў галаву – “Грыбы”. Не спадабалася. Скараціў да “Рыбы”. Так і пакінуў. Спачатку ўсе неяк раўнадушна аднесліся да назвы, а праз некаторы час прызналі, што яна геніяльная.

**Наталька:** Веру, што гэтая назва памазаная. Мы злоўленыя. Плывём на глыбіню.

***Ваш праект музычна-евангелізацыйны. Што гэта значыць?***

**Паўліна:** Усё проста: мы евангелізуем праз музыку, расказваем людзям пра Бога ў спевах.

**Алена:** Музыка – універсальная мова. Можна не размаўляць па-англійску, па-іспанску, па-італьянску, але здолець прамовіць да сэрца чалавека: музыка зразумелая кожнаму. Таму мы распавядаем пра Бога на ўніверсальнай мове. Дакладней, спадзяёмся, што гэта Ён прамаўляе праз музыку і нашае служэнне.

**Наталька:** Праз музыку мы абвяшчаем Імя Пана і ўсё, што Ён робіць. Асабіста для мяне “РЫБЫ” – гэта выключны шанс сведчыць аб Жывым Богу праз тое, што я ўмею і люблю.

**Марыся:** А для мяне гэта яшчэ і адзін са спосабаў супрацоўніцтва з Панам. Праз праект Бог моцна ўздзейнічае на нас: усё больш і больш прыцягвае да сябе, змяняе нашыя адносіны, вучыць іграць, спяваць, разумець і любіць адзін аднаго.

***“Вера нараджаецца са слухання”, – гаворыцца ў Божым слове. А калі і з чаго нарадзілася Ваша свядомая вера?***

**Наталька:** Мая асэнсаваная вера нарадзілася ў Эўхарыстычным руху моладзі, да якога належала большасць падлеткаў маёй роднай парафіі ў Бярозаўцы. Мне было 13 гадоў. Дзякуючы рэкалекцыям і прыкладу жывой веры манаскіх сясцёр, адкрытых на дзеянне Духа Святога, я сустрэла Жывога Бога. Памятаю гэтае “нараджэнне”... Гадзіны з Божым словам, моманты голаду па малітве, захапленне літургіяй... Я нават часам прашу Усявышняга, каб Ён вярнуў мне тое прагненне. Але Пан ніколі не прыходзіць аднолькава. Ён дзейнічае так, як гэтага патрабуе сэрца менавіта цяпер.

**Марыся:** Я з самага дзяцінства хадзіла ў касцёл і лічу, што Першую святую Камунію прымала свядома. Але моцнае перакананне, што Бог жывы, што Ён вельмі блізка, адчуванне адносін з Панам і праца над імі распачаліся ў 19 гадоў, калі я трапіла ў “Школу хрысціянскага жыцця і евангелізацыі”. Там перавярнулася маё ўяўленне пра Бога, веру і пра ўсё навакол.

**Віталік:** Мая вера заснавана на канкрэтных фактах, на тым, што Пан здзяйсняе ў маім жыцці. Хрысціянская свядомасць з'явілася дзесьці ў 18 гадоў. З таго часу я стаў заўважаць, як Бог будуе асаблівыя ўзаемадносіны са мной, якія Ён рыхтаваў з самага майго нараджэння. І да гэтай пары мы спрабуем іх падтрымліваць.

**Паўліна:** Думаю, што мая свядомая вера развілася менавіта ў праекце. Бог так дакладна ўсё падабраў: я шукала Яго, мне хацелася рэалізаваць сябе ў музыцы. І якраз у гэты час прыйшла прапанова запісаць альбом з “РЫБАМІ”. Ці ж не цуд? Адсюль і пайшло маё фарміраванне свядомага хрысціяніна: з уласнай згодай, жаданнем і палымяным сэрцам.

**Алена:** А мая – тады, калі я пачала задаваць сабе пытанні. Што я раблю? Навошта? Дзеля каго ці чаго? Я пачала думаць і шукаць. І ўсвядоміла, што проста спаўняць абрады – гэта яшчэ не вера.

**Паша:** Я нарадзіўся ў хрысціянскай сям'і. Таму аб тым, Хто ёсць Бог, пачуў ад бацькоў. Пасля ўзнікла жаданне пазнаваць Пана глыбей і развіваць адносіны з Ім. Хрысціянская свядомасць нарадзілася дзякуючы людзям, якіх я сустракаў на сваім жыццёвым шляху. Менавіта праз іх я і з'явіўся ў праекце.

***Чым кожны з Вас займаецца ў паўсядзённасці?***

**Алена:** Сярод нас ёсць і ўрач, і інжынер, і праграміст, і прафесійныя музыканты, настаўнікі, студэнты. Гэта таленавітыя маладыя беларусы, якія прагнуць развіваць свае здольнасці і служыць праз гэта Богу. Важна падкрэсліць, што многія з нас праходзяць ці ўжо прайшлі духоўную фармацыю “Школы хрысціянскага жыцця і евангелізацыі”.

**Віталік:** У паўсядзённым жыцці я муж самай цудоўнай дзяўчыны на зямлі і бацька пакуль што аднаго сына. Працую і развіваюся ў сферы дызайна інтэр'ераў, візуалізацыі, 3D-мадэлявання. Вяду вобраз жыцця “жывога” хрысціяніна. Пры любым зручным і нязручным выпадку абвяшчаю любоў і збаўленне, да якога заклікае Бог.

**Паўліна:** Па прафесіі я рэжысёр. Ствараю святы і рознага тыпу мерапрыемствы. Скончыла музычную школу па класе фартэпіяна. Жаданне надалей развіваць майстэрства ігры на інструменце, лічу, падпітвалі мае бацькі, таксама музыканты.

**Юра:** А я вучуся на менеджэра з ухілам на абарону прыроды. Сам не разумею, што за гэтым крыецца, таму вырашыў служыць Богу праз сваю даўнюю любоў да музыкі.

***У якіх рэлігійных мерапрыемствах Вы прымаеце ўдзел?***

**Алена:** Першым нашым выступленнем быў дабрачынны канцэрт у Віцебску, дзе мы ігралі разам з “Harlem Gospel Chor”. Гэта быў старт, які будзем памятаць усё жыццё. Асабіста мне ўрэзалася ў памяць нашае служэнне у Навагрудку, дзе праводзілі адарацыю падчас успаміну пакутніцкай смерці блаславлёных сясцёр назарэтанак, а таксама св. Імша для пілігрымаў у Будславе падчас урачыстасцей 2015 года. “Рыбкі” не толькі займаюцца музычнай часткай мерапрыемстваў, але і з'яўляюцца аніматарамі на разнастайных сустрэчах, дзеляцца сваім духоўным вопытам.

**Наталька:** Ужо на працягу чатырох гадоў мы стала служым у “Школе хрысціянскага жыцця і евангелізацыі” ў Оршы, на “Вінаградніку”. Стаў традыцыйным удзел у Дыяцэзіяльных днях моладзі ў Беларусі. Наведваем вязніцы ў Оршы, Віцебску, Магілёве. Часам арганізоўваем “свае” мерапрыемствы: напрыклад, “Біблія-паці”, якая адбылася ў маі гэтага года ў Шарашове, родная парафіі нашага барабаншчыка і бас-гітарыста.



**Паўліна:** Акрамя гэтага, удзельнічаем у “Музычнай майстэрні” ў Іванцы, пілігрымках і інш.

**Паша:** Кожны месяц мы куды-небудзь адпраўляемся разам. Бывае, што і па некалькі разоў. Аб'ездзілі амаль усю Беларусь. Толькі на Гомельшчыне, здаецца, яшчэ не былі.

**Віталік:** Як удзельнік “РЫБ” магу сказаць, што наш праект – гэта вялікі рухавік для свядомай і жывой веры.

***“РЫБЫ” выпусцілі ўжо другі па ліку музычны альбом, з чым сардэчна віншуем. Што ён значыць для кожнага з Вас?***

**Наталька:** Што Бог жывы і міласэрны.

**Юра:** А яшчэ, што мы маем дачыненне да захапляючага дзеяння Святога Духа ў Беларусі.

**Паўліна:** Для мяне альбом “Любі” – гэта плён моцнага “рыбнага” сяброўства, нашых духоўных адносін з Богам, разумення музыкі і любові.

**Алена:** А для мяне ён як дзіця!

**Марыся:** Гэты альбом з'яўляецца для мяне сапраўдным цудам, бо я да апошняга моманту сумнявалася, што змагу штосьці сыграць. Але, дзякуючы Богу і “рыбкам”, усё ўдалося.

**Віталік:** Я шчаслівы, што Пан паклікаў мяне для рэалізацыі гэтага праекта.

***Які духоўны пасыл Вы ўклалі ў новы альбом?***

**Наталька:** Гэта ж Бог робіць пасыл, а мы проста запісалі песні. Паслухайце!

**Віталік:** Няцяжка здагадацца, што галоўным матывам з'яўляецца простае “любі”, якое пачынаецца са свядомага жадання рабіць дабро бліжнім. Асабіста я ўсё больш пераконваюся ў тым, што любіць – значыць цалкам аддаваць сябе камусьці, ахвяраваць сваё жыццё для іншага чалавека. Сакрэт шчасця хаваецца ў здольнасці бескарысліва дзяліцца самым дарагім з бліжнім, што немажліва без Божай міласці.

**Марыся:** Адзінае, чаго ад нас хоча Пан, гэта тое, каб мы ўмелі па-сапраўднаму любіць (што на самой справе вельмі нялёгка). Больш нічога ў гэтым свеце і не патрэбна. Любоў – гэта вялікі дар ад Усявышняга. Прымаючы яго, мы аздараўляем нашыя сэрцы.

**Паўліна:** Трэба жыць у любові, адорваць ёю іншых і прымаць узамен. І тады, вось паглядзіце, усё будзе проста выдатна! Бо любоў – гэта Бог!

**Алена:** Падчас працы над альбомам асабіста я глыбей усвядоміла Божую любоў як у дачыненні да іншых, так і да самой сябе. А яшчэ зразумела, што для Пана важны кожны з нас, і любіць Ён нягледзячы ні на што.

***Дзе і як можна пазнаёміцца з Вашай музычна-евангелізацыйнай дзейнасцю?***

**Алена:** Мы прысутнічаем у сацыяльных сетках: vk.com/rybyby, facebook.com/rybyproject, instagram.com/rybybelarus. Ёсць таксама відэаканал у YouTube. Усе відэа, фота і аўдыёзапісы гурта можна знайсці па хэштэгу #rybyproject. У сеціве змешчана інфармацыя, дзе можна набыць наш альбом. Дарэчы, у Гродне гэта дыяцэзіяльная крама пры курыі. Бліжэйшыя канцэрты “РЫБ” адбудуцца 18 верасня ў мінскай парафіі Лошыца, а таксама 1–2 кастрычніка ў Дараве (Баранавіцкі раён). Да сустрэчы!

*Вера без учынкаў мёртвая (параўн. Як 2, 26). Уменні і таленты, якімі адарыў нас Бог, накіраваны на тое, каб праслаўляць Яго і праз гэта дайсці да збаўлення. Чалавек можа дзяліцца з бліжнімі тым, чым напаўняе сябе. Таму, каб усё навокал стала Божым, мы самі павінны напоўніцца Богам. Толькі так можна стаць рэзаніруючай хваляй веры. Толькі Евангелле нашага жыцця з'яўляецца першым і галоўным выклікам і перакананнем для гэтага свету.*

*Аляксей з Навагрудка*




Catholic.by

### Першае прэзбітэрскае пасвячэнне ў Манголіі

***Кс. Язэп Энх узяў на свае плечы велізарную адказнасць.***

*Са сваім веданнем багатай старажытнай мангольскай культуры святар можа стаць пасрэднікам паміж Касцёлам і некаталіцкай большасцю насельніцтва краіны. Усяго ў Манголіі пражывае 2,8 млн. чалавек, аднак толькі каля тысячы з іх – католікі.*

*“Я ўзрушаны тым, што пасля амаль 25-ці гадоў прысутнасці Касцёла ў гэтай нехрысціянскай краіне адбыўся цуд – пасвячэнне першага ў гісторыі шырокіх стэпаў мясцовага святара. Я падзяляю радасць і хваляванне нашых вернікаў”, – сказаў біскуп Венцэслаў Падыльля, які кіруе невялікай каталіцкай супольнасцю ў Манголіі.*

OPOKA .org.pl

### Адбылася сустрэча моладзі з супольнасцю з Тэзэ

***У ёй прынялі ўдзел каля 9-ці тыс. маладых людзей з многіх афрыканскіх краін.***

*Арганізаваная экуменічнай супольнасцю сустрэча адбылася ў Катану, найбуйнейшым горадзе Беніна. Дэвізам сёлетняй падзеі былі словы: “Супольна шукаем дарогу надзеі”.*

*“Гэты з'езд будаваў прыязнасць паміж моладдзю з розных краін, традыцый і рэлігій. Мы з задавальненнем дзяліліся ўласным вопытам і вучыліся культуры іншых людзей”, – адзначыў адзін з удзельнікаў сустрэчы.*

wiara.pl

### “Адрачэнне ад насілля: стыль палітыкі на карысць супакою”

***Так гучыць тэма абвешчанага папам Францішкам 50-га Сусветнага дня супакою, які адбудзецца 1 студзеня 2017 года.***

*У апублікаваным прэс-цэнтрам Апостальскай Сталіцы камунікаце адзначана, што насілле і супакой ляжаць у аснове двух супрацьлеглых спосабаў будавання грамадства. Рост колькасці ачагоў насілля прыводзіць да сур'ёзных і негатыўных сацыяльных вынікаў. Святы Айцец падагульняе гэтую праблему ў выражэнні “трэцяя сусветная вайна ў кавалках”. У той жа час супакой, цалкам наадварот, прыводзіць да пазітыўных сацыяльных рэзультатаў і робіць магчымым сапраўдны прагрэс.*

*Святы Пасад указвае, што ў пасланні Папа збіраецца ўказаць шлях надзеі, дастасаваны да сучасных гістарычных умоў: дасягненне вырашэння праблем пасродкам перагавораў, пазбягаючы іх трансфармацыі ў ваенны канфлікт.*

*Кінга Красіцкая*

## Беларусы з супольнасці палатынаў прынялі духоўнае адзенне

*У Таварыстве Каталіцкага Апостальства адбыліся аблучыны 12-ці навіцыяў, сярод якіх 2 паходзяць з Беларусі: Максім Боландзь з Ліды і Павел Казлоўскі з Белаазёрска.*



Урачыстая падзея, што адбывалася ў Слёнскіх Зомбкавіцах (Польшча), сабрала шматлікіх святароў і гасцей. Прыбылі таксама сем'і навіцыяў, іх сябры і знаёмыя. Св. Імшу ўзначаліў кс. Юзаф Ласак SAC – Вышэйшы настаяцель правінцыі Хрыста Караля Таварыства Каталіцкага Апостальства.

Аблучыны, інакш кажучы, прыняцце духоўнага адзення – сутаны з чорным поясам – адбываюцца ў палатынаў на заканчэнне першага года навіцыяту. Пасля ўсяго навіцыяту кандыдат складае абяцанні чысціні, убоства, паслухмянасці, духу служэння, супольнай маёмасці і трывання. Яны штогод аднаўляюцца, аж да моманту складання вечных манаскіх абяцанняў.

## Лідская моладзь прыняла ўдзел у рэкалекцыях у Ішчална

*Падчас сустрэчы маладыя людзі з парафіі Святой Сям'і ў Лідзе ўмацоўвалі сваю веру, разважалі над сэнсам жыцця, а таксама адпачывалі ад гарадской мітусні і клопатаў, каб набрацца сіл на новы навучальны год.*



Кожны дзень хлопцы і дзяўчаты пачыналі з малітвы. Удзельнічалі ў св. Імшы, адарацыях, маліліся Вяночкам да Божай Міласэрнасці, слухалі канферэнцыі, якія праводзіў кс. Руслан Мазан, разважалі і дзяліліся Божым словам. Увечары арганізоўвалі танцы, конкурсы, гульні і спаборніцтвы.

Кульмінацыйным момантам рэкалекцый стаў Крыжовы шлях. На кожную стацыю моладзь рыхтавала тэатральную пастаноўку, што дазволіла паглыбіцца ў даўнія часы і ўбачыць пакутны шлях Езуса.

## Урачыстасць Маці Божай Чанстахоўскай адзначылі ў Гераненах

*Сёлетняе набажэнства ў гонар адной з заступніц мясцовай парафіі ўзначаліў дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі.*



Урачыстасць распачалася адкрыццём аднаўленага абраза Маці Божай Чанстахоўскай. Біскуп звярнуўся да сабраных вернікаў з заклікам вучыцца ў "школе Марыі" і падкрэсліў, што толькі Найсвяцейшая Маці можа навучыць пакорна прымаць Божую волю ў сваім жыцці.

На заканчэнне св. Імшы вернікі прайшлі ў працэсіі вакол касцёла з Найсвяцейшым Сакрамантам. Напрыканцы ўрачыстасці, у сувязі з распачаццем новага навучальнага і катэхетычнага года, біскуп Станеўскі памаліўся разам з дзецьмі і моладдзю і асвяціў школьныя прылады.

## "Фэст у Каралевы" прайшоў у Ашмянах

*Па запрашэнні пробашча кс. каноніка Яна Пузыны на адпустовую ўрачыстасць Найсвяцейшай Панны Марыі Чанстахоўскай у парафію прыбыў біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, святары, вернікі з краіны і з-за мяжы.*



Набажэнства распачалося ўнясеннем у святыню рэліквій св. Войцеха, біскупа і мучаніка. Яны былі перададзены ў дар ашмянскай парафіі прымасам Польшчы, арцыбіскупам Войцехам Палякам.

Урачыстую св. Імшу ўзначаліў ардынарый дыяцэзіі, які падчас гаміліі ўзгадаў мінулае парафіі ў Ашмянах. "Калі ў вернікаў забралі касцёл і зрабілі з яго фабрыку, калі таптаў усё, што было дорага, спрабавалі вырваць з людскіх сэрцаў веру і любоў да Бога, Марыя не пакідала сваіх верных. Нябесная Маці засталася са сваім народам у абразе як Чорная Мадонна. Ён быў патаемна вынесены парафіянамі са святыні і, дзякуючы гэтаму, пазбег знішчэння, – адзначыў бп Кашкевіч. – Пасля таго, як вернікі вярнулі касцёл, абраз ізноў апынуўся на сваім месцы. Сёння ён цешыць вока сваёй прыгажосцю, а таксама нагадвае, што Марыя была, ёсць і заўсёды будзе побач".

Пасля св. Імшы адбыўся традыцыйны "Фэст у Каралевы". Праз спеў і тэатральныя пастаноўкі артысты розных узростаў дзякавалі Богу за ласкі, атрыманыя ад Яго праз заступніцтва Найсвяцейшай Маці.

## Адбыўся XX Міжнародны кангрэс "Рэнавабіс"

*Хрысціянскі форум праходзіў у нямецкім Фрайзінгу і быў прысвечаны тэме: "Сведкі Евангелля – афармляльнікі свету. Да ролі манаскіх ордэнаў у Цэнтральнай і Усходняй Еўропе".*



Каталіцкі Касцёл у Беларусі на кангрэсе прадстаўлялі 11 чалавек. Сярод іх былі дэлегаты з Гродзенскай дыяцэзіі: кс. Юрый Марціновіч – адказны за СМІ ў дыяцэзіі, с. Антонія Шэйгерэвіч CSFN – сакратар біскупскай курыі ў Гродне, і Алена Міхайлік – намеснік дырэктара "Карытас" Гродзенскай дыяцэзіі. Ад імя беларускага епіскапата на форуме выступіў Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі абп Тадэвуш Кандрусевіч.

У межах кангрэса прагучалі даклады, прысвечаныя жыццю і харызмам манаскіх супольнасцей, а таксама іх ролі ў развіцці школьных праектаў. Акрамя гэтага, абмяркоўвалася праца дабрачыннага каталіцкага таварыства "Карытас" і магчымыя формы дапамогі бежанцам і ахвярам гандлю людзьмі.

## АНОНСЫ

### КУРСЫ СЯМЕЙНАГА ЖЫЦЦЯ Ў ГРОДНЕ ЗАПРАШАЮЦЬ НА ЧАРГОВЫ НАВУЧАЛЬНЫ ГОД

**Мэтай курсаў з'яўляецца падрыхтоўка кваліфікаваных спецыялістаў для працы ў сямейных кансультацыях.**

На лекцыі па асновах праўдаў веры і хрысціянскай сям'і запрашаюцца ўсе жадаючыя. Заняткі ў новым навучальным годзе будуць праходзіць у айцоў рэдэмптарыстаў па адрасе: г. Гродна, вул. Курчатава, 20 *(Дзевятоўка)*.

*Атрымаць дадатковую інфармацыю і запісацца можна па тэлефоне: (8-029) 588-42-73 – Ірына Мялешка.*

### КАТЭХЕТЫЧНЫЯ КУРСЫ Ў ГРОДНЕ АБ'ЯЎЛЯЮЦЬ НАБОР НАВУЧЭНЦАЎ

**Дадзеныя курсы для тых, хто жадае глыбей пазнаць каталіцкую веру і стаць правадніком на шляху да збаўлення іншых. Праграма ўключае вывучэнне каталіцкай дагматыкі, маральнай і духоўнай тэалогіі, Святога Пісання, катэхетыкі, кананічнага права, літургікі, каталіцкай псіхалогіі і педагогікі, каталіцкага сацыяльнага вучэння, этыкі сямейнага жыцця і інш.**

Навучанне працягваецца 3,5 гады. Заняткі праходзяць два разы на месяц *(субота і нядзеля)* з кастрычніка па чэрвень. Пасля заканчэння курсаў выпускнікі змогуць аказваць дапамогу ў катэхізацыі ў парафіях.

*Больш падрабязную інфармацыю аб умовах паступлення і навучання можна атрымаць па тэлефонах: (8-0152) 75-33-08, (8-029) 976-15-69.*

### ЗАПРАШАЕМ У ПІЛІГРЫМКУ Ў КАПЦЁЎКУ

**18 верасня з Гродна вырушае пешая пілігрымка дзяцей і моладзі, настаўнікаў і выхавацеляў, выкладчыкаў і катэхетаў. Удзельнікі накіроўваюцца ў санктуарый Маці Божай Яснагорскай, Цярпліва Слухаючай, на Узгорку Надзеі ў Капцёўцы, каб на пачатку новага навучальнага і катэхетычнага года атрымаць Божае бласлаўленне і даверыць усе свае справы мацярынскай апецы Панны Марыі.**

*Больш інфармацыі пра пілігрымку можна атрымаць у кусташа санктуарыя кс. Міхала Ластоўскага па тэлефоне: (8-029) 116-87-26.*

### КАТЭХЕТЫЧНЫ КАЛЕДЖ ІМ. ЗЫГМУНТА ЛАЗІНСКАГА Ў БАРАНАВІЧАХ ПРАЦЯГВАЕ ПРЫЁМ АБІТУРЫЕНТАЎ

**Дакументы для паступлення можна падаць да 1 кастрычніка. Каб узгадніць час, пажадана папярэдне скантактавацца з сакратарыятам па тэлефоне або праз электронную пошту.**

Набор студэнтаў адбываецца ў адну з груп па спецыялізацыі на выбар: **катэхетыка** *(для жадаючых працаваць катэхетам)*, **агульная тэалогія** *(без права выкладання катэхізіса)*, **сямейны кансультант.** Навучанне працягваецца 3 гады *(ад кастрычніка па чэрвень уключна)* у кожную першую і трэцюю суботу і нядзелю месяца.

*Падрабязная інфармацыя па тэлефонах: (8-0163) 57-93-07; (8-0163) 57-93-14, (8-029) 513-57-92. Электронны адрас: callegge@gmail.com. Сайт: catcollege.by. Адрас каледжа: 225411, г. Баранавічы, вул. Т. Шаўчэнкі, 6.*

### АДБУДУЦЦА ЎРАЧЫСТАСЦІ 60-ГОДДЗЯ СВЯТАРСТВА КС. ПРЭЛ. ЮЗАФА ТРУБОВІЧА

**Дастойны юбіляр будзе дзякаваць Пану Богу за дар паклікання 1 кастрычніка падчас урачыстай св. Імшы ў 12.00 у катэдральным касцёле св. Францішка Ксаверыя ў Гродне.** Запрашаем да малітвы ўсіх жадаючых. Ахінём ксяндза прэлата – самага старэйшага святара ў Гродзенскай дыяцэзіі і ва ўсёй Беларусі – сваімі малітвамі, каб ён як мага даўжэй мог служыць нашаму Касцёлу.

### ДЫЯЦЭЗІЯЛЬНАЯ СУСТРЭЧА ВЫКЛАДЧЫКАЎ, НАСТАЎНІКАЎ І ВЫХАВАЦЕЛЯЎ

**24 верасня ў санктуарыі Божай Міласэрнасці ў Воранаве адбудзецца спатканне выкладчыкаў, настаўнікаў і выхавацеляў Гродзенскай дыяцэзіі.**

*У праграме сустрэчы запланаваны супольная малітва і праца ў групах. Пачатак у 10.30. Запрашаем да ўдзелу!*

## ВЫНІКІ ІНТЭРНЭТ-АПЫТАННЯ

### Ці будзе Ваша дзіця ў новым навучальным годзе наведваць урокі рэлігіі?




*Пераважная большасць рэспандэнтаў выказалася, што прасочыць за тым, каб у гэтым навучальным годзе дзеці наведвалі ўрокі рэлігіі. Астатнія палічылі заняткі па катэхезе непатрэбнымі для дзяцей, бо яны ўжо прыступілі да Першай святой Камуніі. Ні адзін з рэспандэнтаў не спаслаўся на занятасць свайго дзіцяці.*

## КАМЕНТАРЫЙ

*Касцёл заахвочвае дзяцей і моладзь рэгулярна наведваць урокі рэлігіі, паколькі гэта не толькі магчымасць развіцця веры, але і вобласць разнастайнага ўзаемадзеяння. Рэгулярнае хрысціянскае фарміраванне дапамагае годна выконваць абавязкі, што вынікаюць з прынятых сакрамантаў хросту і канфірмацыі, на карысць стварэння салідарнага і братэрскага свету. Да супрацоўніцтва ў справе выхавання ў веры паклікаfamy, у першую чаргу, бацькі, якія прынялі гэты абавязак у дзень хросту дзіцяці.*

## У малітве ўспамінаем памерлых душпастыраў:

- **12 верасня 1943 г.** – кс. Раман Місевіч, *проб. Трабы;*
- **13 верасня 2004 г.** – кс. прэл. Ян Граеўскі, *Замбраў – праф. Гродзенскай ВДС;*
- **17 верасня 1963 г.** – кс. прэл. Ігнацый Альшанскі, *проб. Жалудок;*
- **17 верасня 2003 г.** – кс. Антоній Юсель, *проб. Граўжышкі;*
- **19 верасня 1939 г.** – кс. Антоній Тваравоўскі, *проб. Юрацішкі;*
- **21 верасня 1978 г.** – кс. Казімір Радзішэўскі, *проб. Індура;*
- **23 верасня 1996 г.** – кс. прэл. Антоній Банькоўскі, *проб. Осава;*
- **24 верасня 1939 г.** – кс. Ян Крыньскі, *проб. Зэльва.*

*Пры падрыхтоўцы навін выкарыстоўвалася інтэрнэт-старонка* ***grodnensis.by***




*Хвала Хрысту!*
*Вітаю чытачоў моладзевай рубрыкі "На скрыжаванні". У сённяшнім нумары мы з Вамі паразважаем пра душу, адкрытую на дабрачыннасць, супольнае дабро і ўклад кожнага ў развіццё грамадства. Даведаемся, якім павінен быць работнік Пана і навошта дзяліцца сабою з іншымі.*
*Наперад з Богам!*

# Інвеставаць душэўныя накапленні на рахунак чалавецтва

**ВЫКАЗВАННЕ З БІБЛІІ: "Дабрачынная душа будзе насычана, і хто напойвае іншых, той і сам напоены будзе" (Прып 11, 25)**
Фрагмент са Святога Пісання ўказвае на асаблівы Божы Провід у справах дабрачыннасці. Па меры развіцця шчодрасці дабрабыт чалавека павялічваецца. Скваплівасць жа, злучаная з абыякавасцю да патрэб бліжняга, вядзе да ненасытнасці і пастаяннага душэўнага голаду. Толькі аддаючы сябе, чалавек па-сапраўднаму становіцца шчаслівым.

**ІНТЭНЦЫЯ МЕСЯЦА: каб кожны ўносіў уклад у супольнае дабро і ў будову грамадства, якое ставіць у цэнтр чалавечую асобу**
Па задуме Стварыцеля чалавек прыходзіць у гэты свет з нейкай місіяй. І ў кожнага яна свая, непаўторная. Але акрамя таго, асобе трэба памятаць пра тое, што яна існуе ў грамадстве, і павінна клапаціцца пра яго супольнае дабро. У бягучым месяцы папа Францішак заклікае ўсіх католікаў свету маліцца за дабрадзейны ўклад людзей у развіццё грамадства, у якім на першым месцы знаходзіцца чалавечае жыццё.

**ПРАДМЕТ РАЗВАЖАННЯЎ МЕСЯЦА: супольнае дабро**
А ці задумваліся мы калі-небудзь над тым, што кожнага дня карыстаемся супольным дабром? Вось, напрыклад: ідзем увечары па асветленай вуліцы або бяспечна пераходзім дарогу на зялёны колер светлафора, пры неабходнасці звяртаемся да ўрача ці ў бібліятэку. І тут варта задаць сабе другое пытанне: які ўклад я зрабіў у супольнае дабро? Ці ашчадна стаўлюся да таго, чым магу свабодна карыстацца?

**МЭТА МЕСЯЦА: унесці ўклад у развіццё грамадства**
Чалавек можа ўдзельнічаць у развіцці грамадства як работнік, сем'янін або нават як прахожы на вуліцы. Прагрэс палягае на стваральнай сіле, якую чалавеку неабходна прыкласці. Матывацыяй можа выступаць жаданне зрабіць гэты свет лепшым. Таму часам нашмат больш робіць для грамадства прахожы праз свой прыклад дапамогі нямогламу, чым работнік, які з дня ў дзень заняты адной і той жа працай.

**СПРАВА МЕСЯЦА: інвеставаць душэўныя накапленні на рахунак чалавецтва**
Усё жыццё душа чалавека ўдасканальваецца. Яна жывіцца ўражаннямі, пачуццямі, вопытам і да т. п. Такім чынам, у любога за душой маецца запас чагосьці светлага, чым можна падзяліцца з іншымі. Дабро не павінна спыняцца, але працягвацца і перадавацца далей. Падобных "накапленняў" патрабуе кожны. А калі інвеставаць іх у чалавецтва, душа абавязкова атрымае прыбытак у выглядзе Божай узнагароды.

**ПЕСНЯ МЕСЯЦА: "Дай мне, Божа", Ліза Лукашына**
"Дай мне, Божа, паўстаць прад Табою... з крыштальна чыстаю душою", – пачынае са слоў выканаўца. "І служыць Табе не з карысці, не з выгады, не з зайздрасці, але па добраму закліку сумлення, дзеля праўды, дзеля дабра". Музычны твор здольны натхніць на сардэчныя справы, каб не зведаць "духоўнай нястачы", "каб дні не пражыць у бестурботнасці".

**КНІГА МЕСЯЦА: "Характар работніка Пана", Вочман Ні**




Карыснасць хрысціянскага работніка шмат у чым залежыць ад складу характару. Паколькі якасці, што вызначаюць паводзіны чалавека, па натуры гібкія, каэфіцыент карыснага дзеяння можна павялічыць пры ўмове працы над сабой.
У кнізе аўтар разглядае рысы характару, якія маюць ключавое значэнне ў жыцці хрысціяніна. Сярод іх прыязнасць да людзей, уменне слухаць, гатоўнасць да ахвяры, руплівасць і стрыманасць. Вочман Ні таксама разбірае і іншыя цікавыя тэмы, у тым ліку суб'ектыўнасць і стаўленне да грошай.

**АСОБА МЕСЯЦА: святая Разалія**



Нарадзілася ў 1130 годзе паблізу Палерма (Сіцылія). Паходзіць з багатай і высакароднай нарманскай сям'і. Бацька быў адным з прамых нашчадкаў Карла Вялікага. Існуе легенда, што яе маці перад родамі атрымала павучэнне з неба, каб назваць дачку Разаліяй (ружа і лілія), паколькі яна будзе аздобай вострава. Бацькі хацелі выдаць дзяўчыну замуж, але яна, адмовіўшыся ад радасцей свету, уцякла з дома і пасялілася як пустэльніца ў адной са шматлікіх пячор на востраве. З гэтага часу яна вяла пакаяннае жыццё, поўнае малітвы. Памерла ва ўзросце 35-ці гадоў.
У 1624 годзе былі знойдзены рэліквіі Разаліі, разам з якімі знаходзілася картачка з надпісам: "Я, Разалія Сінібалдзі, дачка Божая, пастанавіла для любові Хрыста тут пасяліцца". Традыцыя перадае, што з гэтага моманту адступіла эпідэмія чумы, якая панавала сярод жыхароў Палерма. Над пячорай, дзе былі знойдзены яе парэшткі, збудаваны санктуарый. Штогод туды накіроўваецца шматлікія пілігрымкі. Да ліку святых Разалію прылічыў папа Урбан VIII у 1630 годзе. У каталіцкім Касцёле яна ўшаноўваецца як заступніца пры розных няшчасцях і хваробах. Успамін святой у літургічным календары – 4 верасня.

**Да якіх святых звяртацца з асаблівай просьбай аб заступніцтве ў верасні?**
*Св. Браніслава (1 верасня), св. Разалія (4 верасня), св. Пётр (9 верасня), св. Ян (11 верасня), св. Людміла (16 верасня), св. Станіслаў (18 верасня), св. Францішак (20 верасня), св. Тэкля (23 верасня), св. Герман (24 верасня), св. Тэрэза (26 верасня), св. Міхал (29 верасня).*

*Усе заўвагі і пажаданні дасылайце ў рэдакцыю або на электронны адрас аўтара рубрыкі pokachailo.lina@gmail.com.*

***Ангеліна Пакачайла***




# У Гродне ўзгадалі кс. інфулата Міхала Арановіча

Набажэнствы з нагоды 25-й гадавіны смерці генеральнага вікарыя Гродзенскай дыяцэзіі, які ў часы савецкага атэізму быў адзіным каталіцкім святаром у Гродне, бараніў Касцёл і правы вернікаў, адбыліся 30 жніўня. Ушанаваць памяць спачылага святара прыбылі Мітрапаліт Мінска-Магілёўскі арцыбіскуп Тадэвуш Кандрусевіч, біскуп Гродзенскі Аляксандр Кашкевіч, дапаможны біскуп Гродзенскай дыяцэзіі Юзаф Станеўскі, святары, манаскія сёстры і былыя парафіяне кс. Міхала.














***Кс. Андрэй Лішко***

## Ці можа Бог прамаўляць да нас праз сны?

*Сон не з'яўляецца чымсьці звышнатуральным, і не трэба прыпісваць яму вялікае значэнне. Гэта натуральная функцыя арганізма, якая знаходзіцца па-за свядомасцю.*

*Спецыялісты ў вобласці псіхалогіі і сноў Карл Густаў Юнг вылучыў некалькі прычын узнікнення сноў. Па-першае, гэта знешнія фактары. Калі чалавек спіць, ён можа рэагаваць на гукі ці запаленае святло. Па-другое, на сон уплывае самапачуццё. Вобразы могуць узнікаць па прычыне болю, які мы адчуваем. Сны таксама з'яўляюцца вынікам таго, што адбывалася з намі ў мінулым. Часцей за ўсё, гэта моманты, якія не даюць спакою. Уплыў маюць таксама падзеі, што адбыліся непасрэдна перад засынаннем. Прагледжаны фільм ці прачытаная кніга могуць вярнуцца ў сне.*

*Касцёл не выключае, што праз сон можа дзейнічаць Бог, не забараняе тлумачыць сны, але папярэджвае, што да гэтага трэба падыходзіць з асцярожнасцю. Вялікай памылкай з'яўляецца выкарыстанне соннікаў. Іх празмерная інтэрпрэтацыя можа стаць забабонам. Сюды належыць, напрыклад, перакананне: прысніўся памерлы – чакай няшчасця. Мы не павінны тлумачыць сон з памерлым як знак блізкай бяды, але, хутчэй, як просьбу аб памяці ў малітве.*

*Касцёл гаворыць і пра тое, што існуе з'ява т. зв. прарочых сноў. У Біблії сон з'яўляецца сродкам камунікацыі Бога з чалавекам у тых месцах, дзе жывуць язычнікі. Напрыклад, у Новым Запавеце Анёл у сне просіць Юзафа не баяцца ўзяць да сябе цяжарную Марыю, а потым – забраць маці і дзіця ў бяспечнае месца ў Егіпет. У сне мудрацы з Усходу атрымалі загад не вяртацца да Ірада. Трэба адзначыць, што ўсе гэтыя прыклады маюць сувязь з рэальнай сітуацыяй. Намагаючыся зразумець сон, варта разглядаць яго ў агульным кантэксце.*

*Існуе дыяметральная розніца паміж біблейскімі снамі і снамі ў язычніцкім асяроддзі. У паганскім свеце сон азначае пэўны знак, які трэба растлумачыць. У супрацьлегласць гэтаму, сон у Біблії з'яўляецца дарам, які Бог сам неадкладна тлумачыць.*

*Прарочыя сны мелі некаторыя святыя. Варта адзначыць, што сны гэтых людзей таксама былі неразрыўна звязаны з усім іх жыццём, не канцэнтраваліся на эгаістычных амбіцыях, але вынікалі з высакароднага жадання чыніць дабро бліжняму. Чалавеку, які вядзе мірнае і справядлівае жыццё, працай убачыць і зразумець Божыя знакі.*

***паводле grodnensis.by***

# Гаршкі з мёдам

*Прывітанне, Маленькі Сябар! У жыцці часам здаецца, што бацькі адрасуюць у Твой бок зашмат настаўленняў: іх сотні, а Ты адзін. Як з імі ўсімі зладзіць? Іншы раз не хапае сіл і жадання, каб адолець хоць палову з іх. Але да бацькоў усё ж трэба прыслухоўвацца, бо яны маюць рацыю.*

***Сёння прапануем Табе паразважаць над тым, як усякія павучанні не мінаюць бясследна.***

*Прыйшоў аднойчы сын да бацькоў і кажа:*
*– Тата і мама, каторы раз я слухаю вашы заўвагі, але выправіцца не магу. Якая тады карысць вучыцца ў вас, калі я зноў і зноў памыляюся?*
*Бацька ўважліва паглядзеў на сына і адказаў:*
*– Мой даражэнькі, вазьмі два гаршкі – адзін з мёдам, а другі пусты.*
*Хлопец так і зрабіў.*
*– А цяпер, – сказаў бацька, – перальі некалькі разоў мёд з аднаго гаршка ў іншы.*
*Сын паслухаўся.*
*– Зараз заглянь у пусты гаршчок. Адчуваешь, як пахне мёдам?*
*Хлопец пагдзеў на яго і кажа:*
*– Ойча, пахне вельмі прыемна. Дарэчы, крыху густога мёду засталося на донцы...*
*– Вось так і нашыя павучанні асядаюць у тваёй душы, – сказала мама. – Калі ты засвоіш у жыцці хоць частку таго, чаму мы цябе вучым, Бог па міласці сваёй запоўніць недахоп і ўратуе тваю душу. Бо і зямная гаспадыня не сыпле перац у гаршчок, які пахне мёдам. Так і Бог не пакіне цябе, калі захаваеш у душы хоць пачатак праведнасці.*



## Увага!

**Працягваецца конкурс малюнкаў “Мая катэхеза”.**

*Да ўдзелу запрашаюцца маленькія чытачы, якім прапануецца адлюстраваць у малюнку свой занятак па катэхезе. Гэта можа быць вывява вясёлага катэхета ў класе, сумеснай размовы з бацькамі, развучвання малітваў з бабуляй і інш. Ніякіх абмежаванняў у фантазіі і колерах! Пакажыце, як Вы давведваецеся пра Бога.*

***Удзельнікі конкурсу будуць узнагароджаны прызамі.***

*Чакаем Вашых лістоў на адрас рэдакцыі:*
***230025, г. Гродна, вул. К. Маркса, 4.***

***Спяшайцеся!***
***Вынікі конкурсу будуць аб’яўлены ў нумары газеты за 9 кастрычніка.***

## Задумайся:

*Чаму хлопчык засумняваўся ў тым, што тату і маму трэба слухацца?*
*Якім чынам бацька адказаў на пытанне сына?*
*Што зрабіў хлопец па просьбе бацькі?*
*Ці застаўся другі гаршчок пустым?*
*Які ўрок засвоіў сын пасля размовы з татам і мамай?*

***Падрыхтавала Ангеліна Пакачайла***

# АД ШЧЫРАГА СЭРЦА

**Дарагому брату Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды 60-годдзя перасылаем самыя сардэчныя віншаванні. Жадаем, каб добры Бог з неба разам з Найсвяцейшай Паннай – Маці Божай – давалі ўсё, што Табе патрэбна, а ў першую чаргу – здароўя. Жыві 100 гадоў і нават больш, змяняй сваім словам сэрцы. Няхай Бог будзе для Цябе любоўю, а Марыя – дапамогай!

*Сястра Марыя з мужам Юзафам, пляменнікі Марысенька і Антоній з сям’ёй*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Анатолю Захарэўскаму**

з нагоды Дня нараджэння жадаем моцнага здароўя, радасці, усіх Божых ласкаў, шчодрых дароў Святога Духа і нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі. Няхай кожны Ваш дзень будзе асветлены промнямі Божай міласэрнасці. Сардэчна дзякуем за адданую душпастырскую працу, адкрытае на кожнага чалавека сэрца, мудрыя і павучальныя казанні. Няхай Вам хопіць сіл для рэалізацыі планаў і намераў, а побач будуць толькі добразычлівыя людзі.

*Парафіяне з Міхалішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды 60-годдзя жадаем добрага здароўя, бласлаўлення і апекі Маці Божай Пясковай. Няхай Бог дадае сіл у службе радунскім парафіянам.

*З павагай сем’і Сарноўскіх і Петрашэўскіх з Зялёнкі каля Варшавы (дыяц. Варшава-Прага)*

**Паважанай Сястры Марыі Стасевіч**

з нагоды Дня нараджэння жадаем добрага здароўя, шмат сіл і цярплівасці. Няхай Хрыстос адорвае сваімі ласкамі, Дух Святы асвячае Ваш шлях. Марыя Панна апекуецца Вамі і вядзе найпрыгажэйшай дарогай да Пана Езуса, а кожны дзень прыносіць радасць.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанай Сястры Філатэі Ціхановіч**

у дзень Імянін складаем сардэчныя пажаданні. Здароўя, радасці, сіл і людской дабрыні. Дзякуем за ахвярную працу ў нашай парафіі. Няхай Пан Бог Вас бласлаўляе, а Маці Божая прытуляе да свайго сэрца.

*Са шчырай малітвай Аліцыя і Віталій Воранавы са Смаргоні*

**Паважанаму Ксяндзу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды 60-годдзя перасылаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог, якому Вы даверыліся, бласлаўляе кожны дзень Вашай святарскай паслугі, а Найсвяцейшая Маці ахінае сваёй апекай заўсёды і ўсюды. Жадаем сапраўднай радасці, моцнага здароўя, поспехаў ва ўсім, шчасця, аптымізму і душэўнага супакою. Шчасці Божа!

*“Маргарытка”, Францішканскі ордэн свецкіх і колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанай Спадарыні Феліксе Быкоўскай**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем букет найлепшых пажаданняў: здароўя, поспехаў ва ўсіх справах, добразычлівых людзей побач, душэўнага супакою і няспыннай радасці на кожны дзень. Няхай Маці Божая атуліць Вас сваім плашчом і адорыць усімі ласкамі, а Анёл-ахоўнік нястомна Вамі апекуецца.

*Францішканскі ордэн свецкіх і колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Усім Станіславам**

з нагоды Імянін жадаем шмат здароўя, поспехаў, сіл і стойкасці на жыццёвым шляху, шмат Божых ласкаў, а таксама апекі Найсвяцейшай Маці і святога Станіслава. Шчасці Божа!

*Францішканскі ордэн свецкіх, колы Жывога Ружанца з парафіі Тэалін*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння ад усяго сэрца жадаем добрага здароўя, шчасця, душэўнага супакою, здзяйснення ўсіх мар, сіл і стойкасці на выбраным жыццёвым шляху. Няхай добры Бог бласлаўляе Вас кожны дзень, а Найсвяцейшая Панна Марыя моцна трымае за руку і з мацярынскай любоўю вядзе праз усё жыццё. Дзякуем Пану Богу за тое, што даў нам такога ксяндза, а Вам – за навуку, веру, плённую працу, адкрытае сэрца і за рамонт нашага касцёла. Шчасці Божа!

*Колы Жывога Ружанца, Апостальства дапамогі чысцовым душам і верныя парафіяне з Радуні*

**Паважанаму Ксяндзу Уладзіміру Шкурынскаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем самыя сардэчныя пажаданні: моцнага здароўя, радасці, душэўнага супакою, добрых і зычлівых людзей побач. Няхай усемагутны Бог узмацняе Вас і адорвае сваім бласлаўленнем і любоўю на доўгія гады жыцця. Шчодрых Божых ласкаў, апекі Маці Божай, дароў Святога Духа. Няхай Пан захоўвае Вас ад бед.

*З малітвай Апостальства “Маргарытка”*

**Паважанага Ксяндза Пробашча Аляксандра Рамаяноўскага**

ад усяго сэрца віншуем з Днём нараджэння і жадаем Божага бласлаўлення і апекі Маці Божай, а таксама здароўя, шчасця, цярплівасці і Божай дапамогі ва ўсіх Вашых справах. Дзякуй за ўсё, што Вы для нас робіце.

*З павагай вернікі з парафіі Беззаганнага Зачацця НПМ, Гродна-Паўднёвы*

**Паважанаму Ксяндзу Пятру Вішнеўскаму**

з нагоды Дня нараджэння ад шчырага сэрца жадаем усіх Божых ласкаў, доўгіх гадоў жыцця, бласлаўлення, мноства радасных хвілін. Няхай Езус заўсёды будзе Вашым Сябрам, Дух Святы асвячае кожны дзень святарскай паслугі, Маці Божая прытуляе да свайго сэрца, а святы Заступнік апекуецца Вамі.

*Парафіяне з Шылавічаў*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Юрыю Ёдзіку**

з нагоды Дня нараджэння дасылаем сардэчныя віншаванні. Жадаем доўгіх гадоў жыцця ў добрым здароўі, шмат сіл у рэалізацыі Божых планаў, стойкасці ў пераадольванні цяжкасцей. Няхай Пан Бог бласлаўляе Вас, Найсвяцейшая Панна Марыя і Анёл-ахоўнік вядуць шчаслівым шляхам, а Святы Дух пранікае ў глыбіню сэрца і прыносіць радасць, суцяшэнне і дні, напоўненыя Яго дарамі. Няхай промні бязмежнай міласэрнасці асвячаюць кожны дзень жыцця. Мы ўдзячныя за Вашу прысутнасць сярод нас, за любоў і дабрыню сэрца, за клопат пра нас і аднаўленне святыні.

*З павагай парафіяне з Цудзенішкаў*

**Паважанаму Ксяндзу Прэлату Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння складаем сардэчныя пажаданні. Няхай Бог Айцец адорвае асаблівымі ласкамі, Езус Хрыстус будзе прыкладам і праваднікам на ўсіх шляхах, Дух Святы апраменьвае сваім святлом і надзяляе надзвычайнай харызмай, а ў сэрцы Найсвяцейшай Маці заўсёды для Вас будзе суцяшэнне як для Яе любімага сына.

*З павагай сям’я Марцінкевічаў з Сапоцкіна*

**Паважанаму Айцу Вальдэмару Слоту**

з нагоды Юбілею перасылаем самыя сардэчныя пажаданні моцнага здароўя, шчодрых дароў Святога Духа і Божых ласкаў, а таксама нястомнай апекі Найсвяцейшай Панны Марыі на кожны дзень. Няхай радасць, любоў, супакой і дабрыня заўсёды жывуць у Вашым сэрцы. Дзякуем за руплівую працу, добрыя словы і бацькоўскі клопат пра сваіх парафіян.

*Вернікі з парафіі Перамянення Пана ў Вялікай Бераставіцы*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Юбілею перасылаем букет сардэчных пажаданняў: радасці, моцнага здароўя, добразычлівасці ад людзей, нязгаснага запалу веры, сіл і нястомнасці ў душпастырскай паслузе. Няхай усе непрыемнасці, якія сустракаюцца на Вашым шляху, ніколі не знеахвочваюць, а толькі ўзмацняюць і вядуць да святасці. Шчасці Божа!

*Сем’і Пузач і Саковіч*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Імянін жадаем моцнага здароўя, нязгаснага запалу веры і надзеі, душэўнага супакою і аптымізму на кожны дзень. Няхай святарская паслуга прыносіць Вам радасць.

*З малітвай члены Апостальства дапамогі чысцовым душам з Зэльвы*

**Паважанаму Ксяндзу Пробашчу Вітольду Лазавіцкаму**

з нагоды Дня нараджэння перасылаем мноства сардэчных пажаданняў. Няхай Езус Хрыстус, якога Вы штодзённа трымаеце ў сваіх святарскіх руках, бласлаўляе кожны Ваш дзень, Маці Божая атуляе любоўю і апекай, а Дух Святы дапамагае вытрываць у душпастырскай паслузе і шчодра адорвае сваімі дарамі. Жадаем моцнага здароўя, душэўнага супакою, радасных дзён і толькі добразычлівых людзей побач. Мы шчаслівыя і ўдзячныя Богу за тое, што сустрэлі ў сваім жыцці такога душпастыра.

*З малітвай працаўнікі радунскай агароднінасушыльнай фабрыкі*

**Паважанаму Ксяндзу Яцэку Маркелю**

з нагоды Юбілею ад усяго сэрца жадаем шчодрых Божых ласкаў і ўсіх дароў Святога Духа, а таксама апекі Найсвяцейшай Маці. Няхай кожны Ваш дзень будзе напоўнены цяплом, радасцю, дабрынёй, любоўю і надзеяй. Няхай з дапамогай Бога і добрых людзей рэалізуюцца ўсе Вашы планы, душпастырская праца прыносіць шчодры плён, а наша малітва будзе падтрымкай у кожны дзень жыцця. Шчасці Божа!

*Сем’і Цярэшчанка і Плюшчэвіч*

**Рэдакцыя пакідае за сабой права скарачаць і аб’ядноўваць пажаданні**

Інфармацыйна-рэлігійная газета Гродзенскай дыяцэзіі **Слова Жыцця;** Галоўны рэдактар **кс. Юрый Марціновіч;** Заснавальнік: **Гродзенская рыма-каталіцкая дыяцэзія**; год заснавання **1997**; рэгістр. **№1085**; Выдавец: **курыя Гродзенскай дыяцэзіі**
Рэдакцыя газеты: **230025 Гродна, вул. К. Маркса, 4;** Юрый Лавыш, Ангеліна Пакачайла; тэл. **152/ 756438**; e-mail: **slowo.grodnensis@gmail.com.; http://www.slowo.grodnensis.by;**
Друк: **ГАУПП«Гродзенская друкарня»,** ЛП 02330/39 от 27.03.2014 г. 230025 Гродна, вул. Паліграфістаў, 4; нумар заказу 4514; тыраж 5240; аб’ём газеты – 2 умоўна друкарскія лісты; Якасць друку адпавядае якасці прадстаўленых дыяпазітываў; цана адвольная